# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў ЗША
Published by Byelorussian-American Association, Inc.
33 Norfolk Street
New York 2, N. Y.

PRICE 15 ¢ BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER IN THE U.S.A. ЦАНА 15¢

Год VIII. № 62 30 Лістапада 1957 г. NEW YORK, N. Y., U. S. A. November 30, 1957 Vol. VIII. № 62

## ЭМІГРАЦЫЙНЫЯ ПЭРСПЭКТЫВЫ

Эміграцыя Беларусаў па другой сусьветнай вайне была, бадай, найбольшай аднаразовай эміграцыяй з усіх часоў эміграваньня з бацькаўшчыны ў заходні сьвет. Прычыны эміграваньня былі розныя. Нацыянальна сьведамая й больш актыўная частка грамадзтва эмігравала самахоць, каб весьці далей у вольным сьвеце змаганьне за правы свайго народу, ведаючы, што ёй пагражае зьнішчэньне ад бальшавіцкае ўлады. Іншыя былі сілламоц вывезеныя на працу ў Нямеччыну або пазганяныя із сваіх сялібаў нямецкім войскам пры адступленьні. Але факт адмовы ад звароту на бацькаўшчыну із страху перад бальшавіцкімі рэпрэсіямі да ўсіх, хто пабываў у іншых краёх, надаў усёй эміграцыі палітычнага характару.

У мэтах нацыянальна - вызвольнай дзейнасьці новая беларуская эміграцыя пачала арганізавацца яшчэ ў Нямеччыне. Гэтая дзейнасьць ідзе далей і па асяленьні на сталае жыцьцё ў розных краёх вольнага сьвету, а перш-на-перш у Задзіночаных Штатах Амэрыкі, дзе асела можа найбольш нашае эміграцыі.

Па кароткім часе мы наглядаем сярод сваіх суродзічаў пэўную сэгрэгацыю. Эмігранты, пераважна тыя, што ня былі раней захопленыя і ўцягненыя ў змаганьне за нацыянальна-гаспадарствавую незалежнасьць свайго народу, адсоўваюцца ад арганізацыйнага жыцьця дый пераходзяць на ступень эміграцыі бытавой, з пэрспэктывай асыміляцыі ў недалёкай будучыні ў новым краі пасяленьня.

Адыход ад сваіх нацыянальных арганізацыяў і абыякавае станаўленьне да нацыянальна-вызвольнае справы, пэўна-ж, абніжае вынікі дзейнасьці нацыянальных арганізацыяў.

Дарма, што некаторыя эмігранты выказваюць спагаду й памогу сваім суродзічам на бацькаўшчыне высылкай прадуктовых ці адзяжовых пачак. Гэтая помач нясталая, а ў выніку вельмі-ж часта можа стацца й немачай — з гэтым заўсёды трэба лічыцца, бо *бальшавізм не зьмяніў свае істоты*. Рэальнай помачай будзе дапамога нашаму народу ў здабыцьці волі й незалежнасьці. У каго не зачэрсьцьвела сэрца да долі свайго народу й хто хоча яму памагчы, той павінен усьведаміць, што нашае змаганьне за лепшую будучыню свайго народу, нашая памога, можа быць большай у выніках пры супольным ходаньні, пры задзіночаньні й павялічаньні нашых радоў.

У Амэрыцы асыміляцыйны поступ ідзе, бадай, барджэй як у якім-небудзь іншым краі. Велічнасьць і магутнасьць амэрыканскае гаспадарствавае структуры, тэмп жыцьця й спэцыфічны бытавы ўклад дзеіць важка й кансэквэнтна. І гэта зусім нармальна. Не станавіла-б амэрыканскае гаспадарства, зложанае з эмігрантаў цэлага сьвету, такой сілы, якую яно мае цяпер, калі-б справа стварэньня аднаго грамадзтва ўкладалася йначай. Аднак, амэрыканскае права й быт не забараняе й не перашкаджае дбаць пра сваю нацыянальную культуру ды памятаваць і дбаць пра волю свае ранейшае бацькаўшчыны. Амэрыканцы сьведамыя таго, што няпоўнавартасным амэрыканскім грамадзянінам будзе той, хто лёгка забываецца на радзімае гняздо й не шануе свае ранейшае бацькаўшчыны. Вось-жа прыняцьцё амэрыканскага грамадзянства і ўлучэньне ў вагульна-амэрыканскую грамаду аніяк не накладае абавязку забыцца на сваё роднае, на сваіх прашчураў, на долю свае шматпакутнае Бацькаўшчыны. Нацыянальнае жыцьцё шмат якіх народаў, што аселі ў Амэрыцы ўжо даўно, зусім добра ўкладаецца з амэрыканскім правам, вымогамі ляяльнасьці ды амэрыканскім патрыятызмам. Нажаль, сярод Беларусаў яшчэ ня зусім адмерлі камплексы няволі, што прыліплі да іх за часы нацыянальнага гвалту й асыміляцыйнага ціску нашых кольківяковых акупантаў.

У выніку недаацэны важнасьці арганізацыйна - нацыянальнага жыцьця ўжо выяўляюцца трывожныя сымптомы сярод нашае моладзі, якая пачынае чамусь цурацца старэйшых. Ня трэба заплюшчваць вочы на тое, што моладзь часта-густа захапляецца горшымі выявамі амэрыканскага жыцьця ды сьхінаецца да лёгкага, пустапарожнага, а часам і шкоднага, праводжаньня часу. Калі-б гэтыя выявы сярод моладзі пераважылі, дык з гэткіх грамадзянаў у будучыні ня было-б пацехі ні грамадзтву, ані бацьком. Адгэтуль бярэ пачатак трагедыя горкае адзінотнае старасьці, што мы нагдядаем сярод ранейшае беларускае эміграцыі. Бацьком дзеля гэтага першым чынам і належыць дбаць пра свае дзеці. Калі бацькі ня здолеюць узгадаваць дзеці ў пашане як да сябе, так да сваіх дзядоў, да краю свайго паходжаньня, дык цяжка ўжо будзе гэта паправіць. Свае-ж абавязкі да родных дзяцей бацькі заўсёды лягчэй выканаюць пры супольным грамадзка - арганізаваным жыцьці. Цураньне і ўхіленьне ад свае грамады бязумоўна шкодна адаб'ецца на выхаваньні дзяцей — гэта, здавалася-б, праўда ясная для кажнага.

Трэба адцеміць і тыя зьявы сярод нашага грамадзтва, што няспрыяльна адбіваюцца на ўзгадаваньні моладзі. Гэта — варажнеча між арганізацыямі розных кірункаў. Яна й беспасярэдна блага ўплывае на моладзь, а пасярэдня спрычыняецца да таго, што мы ня можам зарганізаваць запраўднага культурна-нацыянальнага жыцьця, якое-б захапляла моладзь. У выніку расьцярушанасьці па сьвеце ды нязгоды мы ня можам ні стварыць добрага тэатру, ні належна паставіць прэсу, ні добрага хору; маем цяжкасьці і ў стварэньні царкоўна - рэлігійнага жыцьця. Гэтая акалічнасьць вымагае лучэньня нацыянальных сілаў. У гэтым выпадку трэба цешыцца з тых спробаў нашае зарганізаванае моладзі да задзіночаньня й кансалідацыі. Шкада, што гэта пакуль што спробы, а не рэалізацыя. Падтрыманьне варажнечы хіба-ж нельга йначай назваць як сьведамай варожай дэструкцыяй. Задзіночаньне павінна пачацца ў супрацы, агульна-карыснай і канечнай. Наш эміграцыйны стан і будучыня станоўка гэтага вымагае. Важкасьць нашага голасу за волю нашага народу будзе залежаць ад нашае нацыянальнае арганізацыйнае жыцьцёвасьці. Нутраное нашае нацыянальнае жыцьцё павінна разьвівацца, а не заміраць, бо памёрлы голасу не падасьць. Гэта-ж, хіба, таксама ясная праўда.

*М-г.*

## Саракагодзьдзе савецкае катаргі

Калі бальшавікі захапілі ўладу ў 1917 годзе, бальшыня тагачаснае інтэлігэнцыі прараквала неўзабаўны ўпадак бальшавізму. „Пабудуць датуль, пакуль дарэшты зруйнуюць гаспадарку, бо стварыць сякія-такія вартасьці бальшавікі — разбуральнікі з натуры — няздольныя", — так казалі сучасьнікі.

Бальшавікі разбурылі шмат чаго, а вартасьцяў ніякіх не стварылі, ды вядуць і далей разбурэньне найвартасьнейшага — людзкасьці ў чалавечай натуры. Але вось сорак год прайснавалі ды ў саракагодзьдзе свайго йснаваньня наважылі задзівіць сьвет сваймі „дасягненьнямі", якія заўсёды мелі й маюць прапагандавыя мэты, а цяпер яшчэ й застрашаньне вольнага сьвету.

Да саракавых сваіх угодкаў яны дарыхтавалі збудаваньне далёкасяжных ракетаў, запушчэньне спадарожнікаў зямлі ды, як відаць з падзеяў на Блізкім Усходзе, меркавалі ўлезьці ў Дарданэлы, каб папешыць Расейцаў ды зьдзейсьніць „заветную мечту" расейскага імпэрыялізму.

Ня ўсе імпрэзы ўдаліся паводля задуманага пляну, а сёетое выплыла й непрадбачанае. Аднак, збудаваньнем далёкасяжных ракетаў і запушчэньнем двух спадарожнікаў зямлі бальшавікі запраўды ўскалыхнулі заходні сьвет ды патрапілі паважна падарваць прэстыж Амэрыкі — краю, які толькі адзін здольны супрацьставіцца бальшавіцкай навале, дзе якога бальшавікі баяцца. Ускалыхнулі й раскатурхалі ад небясьпечнай нядбаласьці ды неналежнай ацэны й разуменьня бальшавізму. Бо навет і тут, у галіне навукі, яны наплявалі на дадзеныя імі дэклярацыі й умовы пры арганізацыі міжнароднага „геофізычнага году". Гэта яшчэ лішні раз даўбанула па лобе заходніх палітыкаў, што ўмовы й дэклярацыі для бальшавікоў становяць толькі кавалак паперы, якую заўседы можна выкінуць у кош; што ў саветах няма вольнае навукі, бо яна на службе ў бальшавіцкіх агрэсыўных плянаў; што дасягненьні ў ракетнай справе маюць найперш ваенныя мэты. Нажаль, яшчэ й дагэтуль ня ўсім на Захадзе ясна, што калі толькі бальшавікі пачулі-б запраўдную перавагу ў сіле, яны ані часіны не марудзілі-б накінуць свае кайданы на вольны сьвет; яшчэ й дагэтуль шмат хто цешыць сябе „мірным суіснаваньнем" з бальшавікамі дый прапагуе гэтае суіснаваньне.

Як бальшавікі дайшлі да запушчэньня зямных сатэлітаў — аб гэтым яны ўжо самі падбалі. Мае з гэтым сувязь, а можа й першае значаньне увязьненьне нямецкіх навуковых, крадзежа навуковых навінаў у Амэрыцы, рэшта — бальшавіцкі прымус пад страхам сьмерці. Як-бы там ні было, але вынік ёсьць, мэта дасягнутая. Гэтае дасягненьне, ізноў-жа, павінна паслужыць навукай тым заходнім скептыкам, якія думалі, што падбітыя бальшавікамі народы недалужныя, нядольныя да паважных чынаў ды спакойна пагаджаюцца зь няволяй. Хто ведае, ці ня мае тут месца яшчэ й помста заходняму сьвету за ягоны так даўгі й спакойны пагляд на мукі й цярпеньні падбітых бальшавізмам народаў. Гэта было-б ужо запраўды страшна й фатальна. Калі-б Захад усьведаміў усе гэтыя акалічнасьці, савецкае „дасягненьне" было-б пачаткам бальшавіцкага ўпадку. Можна меркаваць, што ў вольным сьвеце пачнецца настаўленьне да бальшавізму больш станаўкое й мэтазгоднае.

„Нумар" із пранікненьнем у Дарданэлы ня ўдаўся. Важкая заява амэрыканскага дзяржаўнага сакратара Далэса, які сказаў, што ў выпадку нападу саветаў на Турэччыну Амэрыка адкажа вялікім ударам не адно на Сярэднім Усходзе, але й на тэры-

Заканчэньне на 2 бал.

## Беларусы у міжнацыянальным фэстывалі

„Фолк Фэстывал Каўнсыл" —арганізацыя, якая цікавіцца захаваньнем культуры й нацыянальных традыцыяў паміж эмігрантаў усіх народаў, ды прадстаўнікоў іншых нацыянальных групаў Амэрыкі, наладзіла ў Нью-Ёрку 17 лістапада сёлета міжнародны фэстываль. Праграма вечару складалася із скокаў, песьняў і музыкі гэткіх нацыянальнасьцяў: Амэрыканскіх Індыянаў, Армянаў, Беларусаў, Грэкаў, Ірляндцаў, Мадзяраў, Філіпінцаў, Французаў, Швэдаў і Украінцаў.

Канцэрт быў адкрыты пазнаямленьнем публікі, якое налічвалася да тысячы асобаў, із сьцягамі ўсіх народаў, што бралі ўдзел у канцэрце.

Беларускае народнае мастацтва на міжнацыянальным фэстывалі было рэпрэзэнтаванае хорам і танцавальнай групай. У канцэрце ўзяў удзел вялікі народны хор із Саўт-Рывэру пад кіравецтвам хормайстры В. Селях-Качанскага. Хор, у складзе трыццацёх дзяўчат і хлапцоў у прыгожых беларускіх строях выканаў песьні: „Каліна - Маліна", „Полька Янка", „Ох, ты, мароз", „Эх, ты, Нёман-рака", „Ой, ня кукуй, зязюленька". Акампаніявалі хору сп-чна К. Качанская на піяніне і сп. П. Мядзьведзкі на акардыёне

Пасьля гэтага танцавальная група нью-ёркаўскага аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі (кіравала танцамі сп-чна А. Орса, акардыяністы Л. Рудзінскі) жвава выканала вясёлага „Крыжачка", заслугоўваючы гэтым гучную падзяку з залі. На гэтым месцы, разам з ацэнай праробленае танцавальнай групай працы, хацелася-б падбадзёрыць танцоўнікаў ды пажадаць ім дапоўніць свой рэпэртуар усімі нашымі народнымі скокамі.

У выступах іншых народаў асабліва вылучаліся Амэрыканскія Індыяне із сваім „Ваенным скокам", Ірляндцы прыцызыйнасьцяй выкананьня ды Украінцы багатымі колерамі й вялікаю колькасьцяй удзельнікаў.

З нагоды міжнацыянальнага канцэрту была наладжана таксама выстаўка народнага мастацтва розных народаў.

У беларускім аддзеле выстаўкі можна было пабачыць народныя строі, тканіны, паясы, вырабы з саломы й іншае. Беларуса пры працы ўдала характарызаваў абраз мастака П. Мірановіча „Перад бурай".

Фэстываль закончыўся агульным няяньнем (разам з гледачамі) колькіх амэрыканскіх песьняў.

В С.

## Бальшавіцкі »гэраізм«

Ад пачатку „Кастрычніцкага" перавароту аж да сьмерці Леніна ў бальшавіцкім асяродзьдзі дзьве асобы ўважаліся як тварцы гэтага перавароту— гэта Ленін і Троцкі. Ленін быў тэарэтыкам, а Троцкі выканальнікам. Заслугі Троцкага выслаўляліся не адно на фроньце вайны, але й на фроньце дыпляматычным. Гэтак было аж да выгнаньня Троцкага з Савецкага Саюзу й абвяшчэньня яго зраднікам і ворагам бальшавізму.

Адна з выдатнейшых бальшавіцкіх перамогаў на збройным фроньце — гэта захоп Перакопу й ліквідацыя арміі Врангеля. Перамога гэтая ўвайшла ў бальшавіцкую гісторыю. На хвабрыках і ўстановах праводзіліся мітынгі, дзе дакладчыкі апавядалі гісторыю гэнага змаганьня і ўслаўлялі гэрояў тых баёў. Але цікава тое, што пры зьмене кірунку бальшавіцкае палітыкі няняліся й галоўныя гэроі Пепакопскае перамогі.

Мне два гады ўзапар давялося быць на гэткім мітынгу. Абодва гады рабіў даклад адзін і той самы дакладчык і былі тыя самыя слухачы. Першы год гэты прамоўца ўслаўляў маршала Блюхера, як галоўнага гэроя перамогі А другі год мы пачулі з вуснаў гэнага самага прамоўцы, што галоўным гэроем Перакопскае перамогі быў сам „таварыш Сталін", бо Блюхер быў тады ўжо зьліквідаваны. Слухачы толькі пераглянуліся міжсобку, і справа скончаная. А цяпер, пасьля 20-га зьезду бальшавіцкае партыі, сёлета я прачытаў у № 42 беластоцкае „Нівы", што галоўным гэроем Перакопскае перамогі быў Фрунзэ.

Мне здарылася чуць ад удзельнікаў перакопскіх баёў, чырвонаармейцаў і камандзераў, што галоўным гэроем „Перакопскае перамогі" быў ня хто іншы, як „бацька" Махно. На загад Троцкага чырвонаармейцаў гналі на валы Перакопу, як статак на забой. Яны сваймі трупамі пазавальвалі равы, а фронт Врангеля стаяў непарушна. Але аднае восенскае начы махноўцы назапасілі шмат саломы ды праз Сіваш утапталі саламяную сьцежку. Па гэтай сьцежцы перабраліся махноўцы ды з тылу Врангелевага фронту зрабілі вялікую паніку. Франтавікі кінуліся наўцёкі, а чырвонаармейцы тымчасам перайшлі Перакоп. Пасьля гэтага Троцкі даў загад арміі, каб ніводнага махноўца ня выпусьцілі жывым з Крыму. Высьлізнуў толькі сам Махно з маленькай групкай, а іншых бальшавікі перабілі.

Ці гэта праўда ці легенда не бяруся цьвердзіць, але для бальшавіцкага „гэраізму" гэткія ўчынкі характэрныя Ілюстрацыі адбываюцца ўсьцяж і на нашых вачох.

З-скі

### ФІЛІЯ СТУДЭНЦКАГА СТЫПЭНДЫЯЛЬНАГА ФОНДУ ПРЫ ЦБАА Ў ЗША.

Гэтым падаецца да ведама беларускага грамадзтва, што ў Амэрыцы пачаў сваю дзейнасьць аддзел Студэнцкага Стыпэндыяльнага Фонду пры Цэнтралі Беларускіх Акадэміцкіх Арганізацыяў. Гэтае пытаньне было ўзгодненае з Галоўнай Управай ЦБАА і ССФ у Лювэне (Бэльгія) у часе майго леташняга падарожжа ў Эўропу.

У заданьні Філіі ўваходзіць наступнае:

1. Зьбіраньне запазычанасьцяў у касу ССФ ад Беларусаў, былых студэнтаў, якія сваім часам атрымалі дапамогу з касы ССФ у форме пазыкі ды якія цяпер жывуць у ЗША.
2. Зьбіраньне ахвяраў у касу ССФ.
3. Даваньне дапамогі (у форме пазыкі) беларускім студэнтам у ЗША, а па магчымасьці — і ў іншых краёх сьвету.

Зыбраць запазычанасьці, аднак, стаіць на першым пляне дзейнасьці Філіі. Сьпіс, прысланы старшынём ССФ а. д-рам А. Смаршчком, паказвае, што 31 Беларусаў, што жывуць у ЗША вінаватыя ў касу ССФ 2155.59 ам. даляраў. Зварот толькі гэтае сумы, ня лічачы ахвяраў, дасьць магчымасьць колькім беларускім студэнтам працягваць студыі, спыненыя дзеля матар'яльных прычынаў.

Усе даўжнікі ССФонду атрымалі або атрымаюць ліст-зварот зь пералікам сумы даўгу ды з просьбай зьвярнуць запазычанасьць у касу ССФ у як найбліжэйшым часе. Пры пераліку ДМ на амэрыканскія даляры лічыцца тры ДМ за адзін даляр; пры пераліку РМ (райхсмарак) лічыцца дзесяць РМ за адзін даляр. Гэткі курс нямецкае валюты быў у бэльгійскіх імпартна-экспартных банках у часе выдачы пазыкаў, якія былі у бальшыні выпадкаў поўнасьцяй выкарыстаныя на аплату навукі. Бяручы наўвет тое, што некаторыя даўжнікі, якія атрымалі пазыку перад грашовай рэформай у Нямеччыне ў ліпені-жнівені 1948 г., не маглі поўнасьцяй выкарыстаць яе, пазычаньня ў гэным часе грошы будуць пералічаныя па 20 РМ на адзін амэрыканскі даляр.

Магчыма, што некаторыя з даўжнікоў ня будуць поўнасьцяй згодныя з пададзеным вышэй спосабам пераліку. У гэткім выпадку просіцца ўзяць наўвет, што зьверненыя грошы будуць выкарыстаныя для дабра беларускае справы. Адначасна просіцца ўсіх даўжнікоў, асабліва тых, што сяньня працуюць у сваім фаху ды маюць забясьпечаную будучыню, у дадатак да звароту запазычанасьці даць таксама ахвяру ў касу ССФ. Калі хто з даўжнікоў мае часовыя матар'яльныя цяжкасьці, можа сплачваць задоўжанасьць ратамі.

Прызнаньне пазыкі будзе рабіцца адпаведнай камісіяй — сябрамі Філіі ССФ пры ЦБАА у ЗША — у якую ўваходзяць пяць асобаў: старшыня Філіі ССФ у ЗША — др. А. Вярбіцкі, старшыня ССФ — а. др. А. Смаршчок (або ім вызначаны заступнік у ЗША), прадстаўнік ад БІНіМ-у — мгр. Я. Запруднік, прадстаўнік ад БАЗА — сп. А. Протас, прадстаўнік ад Беларуска-Амэрыканскага Таварыства — інж. К. Калоша.

Падрабязнасьці што да дзеяньня Філіі ССФ будуць пададзеныя ў статуце Філіі, які будзе апублікаваны ў часапісе „Віці".

Дапамога студыюючым будзе выплачвацца толькі пасьля атрыманьня пісьмовага забавязаньня звароту яе пасьля сканчэньня студыяў ды пачатку працы.

Кіраўніцтва Філіі ССФ пры ЦБАА у ЗША выказвае надзею, што Філія атрымае падтрыманьне як ад студэнцкае моладзі, гэтак і ад старэйшага грамадзтва ў Амэрыцы ды, такім парадкам, здолее стацца сталай дапамаговай арганізацыяй для беларускае студэнцкае моладзі на эміграцыі.

Др. А. Вярбіцкі,
старшыня Філіі ССФ пры ЦБАА у ЗША.

## ХРОНІКА БАЗА

### ПЭРСАНАЛЬНЫЯ ЗЬМЕНЫ У ГАЛОУНАЙ УПРАВЕ БАЗА

У сувязі з выездам зь Нью-Ёрку абодвух сакратароў Галоўнае Управы БАЗА, сп. П. Дварэцкага ў Клівэлянд, а сп. Ю. Станкевіча ў Філядэльфію, Галоўная Управа даверыла выконваньне абавязкаў беларускага сакратара сп. Ф. Бартулю, а абавязкі ангельскага сакратара ўзяў на сябе заступнік старшыні БАЗА сп. П. Маньковскі.

### НОВЫ АДДЗЕЛ З Б М А САУТ-РЫВЭР — НЬЮ-БРАНСУІК

У кастрычніку сёлета ў Саўт-Рывэры адбылася зборка моладзі, на якой быў заснаваны новы аддзел Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы. У ўрад новага аддзелу ўвайшлі: М Каранеўскі — старшыня, Г. Лёсік — сакратар, А. Дубяга — скарбнік. У рэвізійную камісыю ўвайшлі: Г. Русак, В. Дубяга й Г. Стома.

### У ЖАНОЦКАЙ СЭКЦЫІ Б А З А

25 кастрычніка сёлета Управа Жаноцкае Сэкцыі БАЗА наладзіла сяброўскі вечар. Праграма вечару складалася з рэфэрату д-ра Я. Станкевіча аб Смаленскім княсьцьве, з культурнага фільму ды з пачастунку.

Напярэдадні гэтага вечару Жаноцкая сэкцыя БАЗА сталася сябрам Нацыянальнае Рады Жанчынаў ЗША, афіляванае пры Міжнароднай Радзе Жанчынаў.

### ДЗЕНЬ НЕПРЫМІРЫМАСЬЦІ . . .

мы ня ведаем, ці гэта будзе вайна супраць камунізму ці супраць расейскага народу". Пра камуністычнага спутніка: „Спутник будет всегда первым русским спутником, и мы его не собираемся подарить советской власти".

І ўрэшце выйшаў чарнявы дзядок і цяжкім армянскім акцэнтам грымнуў, узьняўшы, як Мінін, руку ўгару: „Каждый из нас, инородцев, в тяжёлое время всегда считал Россию своей родиной!" А дзеля таго, што гэта меўся быць мітынг „няпрымірэньня з камунізмам", дык гаварылася таксама й пра камунізм.

Але чаго гэтыя дзядзькі галасілі пра „расчленителей", дык зразумець цьвярозаму чалавеку, далібог, цяжка: прынамся дагэтуль нідзе й слыху ня было аб тым, каб хто-небудзь зьбіраўся дзяліць Расею. Ведама толькі, што Грузія хоча быць Грузіяй, а не Расеяй, Эстонія — Эстоніяй, Беларусь — Беларусяй і Украіна — Украінай. А Расея — хай жыве здаравенькая ў сваіх этнаграфічных межах.

А. Б.